Цэна асобнага номэру **20** коп.

№ 1. Мінск Пятніца 8 сакавіка 1918 г. № 1.

# БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ

Рэдакцыя і кантора:
Серпухоуская вул. № 12.
Тэл. 401.

## Ад рэдакцыі.

„Беларускі шлях" ставіць сабе мэтай: нізалежнасць Беларусі, нацыянальная еднасць і арганізацыя, развіцце беларускай духоўнай і матэрыяльнай культуры.

Газэта будзе выходзіць, як наладзіцца почта і тэлеграф, штодня. Падпіска ешчэ ні прымаецца. Газэта будзе прадавацца: у газэтчыкоу, у беларускай кнігарні— Захароуская 24, у рэдакцыі «Вольнай Беларусі»—Захароуская 18, у „Беларускай Хаце"—конный базар.

Адрэс рэдакціі „Беларускага шляха": Мінск, Серпухоуская 12.

Просім беларусау падтрымаць газэту і даваць адрэсы, для рассылкі пробных нумэроу і арганізацыі продажы „Беларускага шляха".

*Мінск. 8 Сакавіка.*

Цяжка і доуга пакутавау народ наш пад уладою маскоускага самодзержанаго ураду. Уся праца дзержаунай машыны кіравалася так, каб трымаць яго у цемнаце, у марнолі, на самым доле супольнаго будынку. Розум народу, мозг народу, яго уласнае дзіцця—інтэлігэнцыя, тая, што хацела і магла служыць яму на карысьць—безлітасна разлучалася з ім хітрымі, хціўымі апякунамі. З рэвалюцыяй настау, здавалося, момэнт, калі інтэлігэнцыя здоляе вольна прыйсьці к народу і ахвяраваць яму свае сілы, а к трону яго, як свой сыноуні дар, злажыць усю суму навукі і дасьведчэння, якую назьбірала у часы безпрауя.

Але парадкі супольства ні мяняюцца мабыць гэтак легка і хутка, як урады. Праца гнібіцялеу ні асталася безплеклай. Знайшліся цемныя, выгадаваныя прошласьцю, людзі, якія пачалі заклікаць народ, каб ён высьцерагауся шчырых сыноу сваіх, каб ім ні веру, бо гэта —здраднікі, прыслужнікі багатых стану. Паплверанні векамі народ—аргэта пакорыу гэтым заклікам даунаго безпрауя і пайшоу за імі, за тымі, у чыім сэрцы ні было нічога апрача нявольніцкаго страху і падазронасьці. Пайшоу, паслухняны, з вялікай верою у сваіх збавіцялеу і прышоу з імі у тое царство бязладу, зьверства і братняй звады, з якога толькі адзін выход: у нібыт, у загладу. Ціпер, кіспадзевана для сябе, апынуушыся над краем бездоння, пакінуты кідаунімі правадырамі на сябе самаго,—народ наўчыць, адчаіушы страх і трывогу, якія яго апанавлі, і бацца назат падумаць, што з ім можа далей быць.

Так ясна пачаушыся, расійская рэволюцыя завела народ у цемру, у жах перад чародным момэнтам, ашукаушы яго пекнымі абецанкамі. З гэтаго цяжкаго стану мы павінны ратаваць народ наш. Павінны, забыушыся на усе уразы, якімі ён, падгюджываны нісумленымі правадырамі, закідау нас, пайсьці зноу да яго і быць з ім. Ні дзеля падзякі, ні дзеля вопляскау, а дзеля споуненя свайго сыноускаго абавязку, дзеля патрэб агульна-людзкога поступу і чалавечай культуры павінны дапамагчы яму ціпер усе, хто можа, хто мае нейкі запас навукі, дасьведчэння, умеласьці,—і проста сыноуняй ахвоты. Маючы на мэці такую помач народу, мы заклікаем вас, брацця усіх азваццца на гэты покліч. Мусім сабрацца, і злажыушы разам свае сілы, узяцца за працу ні трацючы часу, бо ціпер—„прабава—сьмерці недобна".

Шмат што нас можа разлучаць, але усіх нас еднае адно:—гэта доля нашай Бацькоушчыны-Беларусі, каторая палепшыцца можа толькі праз заклад моцнаго фундаманту яе нізалежнасьці на грунці ніраздзельнасьці беларускаго народу у яго этнографічных рубежах; праз падняцце нацыянальнай творчай сілы народу, як духоўнай, так і матэрыяльнай; праз упраздженне спачоучай земельнай рэформы у інтэрэсах дробных земляробау і беззямельных, каб згодна з дасьведчэннем соцыяльнай навукі паднясць іх дабрабыт і дапамагчы эконамічнаму развіцію края. Толькі згода усіх нацыяу на Беларусі, свабоднае развіцце іх нацыянальных культур, і злучэнне у агульнай працы усіх творчых жывых сіл края можа давясьці нас да бажаных скуткау.

## Хто будзе плаціць расходы вайны?

Як відаць з дакавора памеж Украіной і Гэрманіей расійскіе расходы на вайну будуць падзеляны памеж усімі абласцямі, не гледзючы ці астаюцца яны з Рассей ці не. На Беларусь выпадзе з гэтага веселаго спадку міліардоу 6, хваце і ни унукоу. Трэба будзе заплаціць беларускую часць за страты прыватных людзей у Галіції і Усходней Прусіі, каторые збурэны не памеж-дународному праву. 600 вер. фронту на Беларусіі, наши лясочкі, каторые вылецелі дымам, бежэнцы усе гэта зроблена па расейскаму праву, значіць німа с каго і шукаць. Ні на якім кангрэсі аб гэтым нігаварылі; толькі п. Троцкі, калі чэкалі наступленьня Гэрманіі на Міншчыну, сказау, што прыфронтовая паласа так аграблена рускімі салдатамі, што Гэрманія тут калі і наступіць, то ні пажывіцца.

Паны дзяруцца, а у мужыкоу косці трашчаць!

Трэба беларусам злучацца, каб была стройна арганізованная нацыя, тагды і голас яе пачуюць. Можэ дачэкаемся часу, што нас перэстануць смаліць, паліць і разганяць.

## Беларускі шлях.

Наш шлях,—цярэбляны векамі,
Наш шлях—пратоптаны лапцямі.
Па ім далей мы пойдзем.

Наш шлях крывей, сьлязьмі абмыты,—
Наш шлях. Ен намі ні забыты,
На ім мы нашу прауду знойдзем.

На шляху—дзедавы магілы,
На шляху—маладыя сілы,
На нашым шляху—наша доля.
На шляху лірнікі сьпеваюць
І песьні вольныя складаюць
А беларускім, родным полі.

Ачніцесь, бедныя ратаі,
Бо шчасьце—будучына краю
У вашых жа руках!
Ідзіце усе, усе бяз конца
Пад беларускім ясным сонцам
На беларускі шлях!

**Язакар.**

## Збурэнная Беларусь.

600 верст фронту вайны прахадзіла на Беларусі. 1726068 бежэнцоу беларусоу балзаюца на усей Расеі, як. Трэба дапусціць, што каля 200000 хат трэба адбудоваць, нанова, і завясці гаспадарку.

Мястэчкі і горады мы тут ня лічым.

Каб адбудаваць і завясці усе, ніякіх ніхвае сіл. Трэба міжнародная помач грошэвая, адміністрацыйна-тэхнічная, агранамічная.

Насяленьне.

На кожнаго гаспадара па 4 дзесяцінах потрэбно зямлі. Ніва 1909 г. ... 6—7 Гаспадарка ... ку-

м. Мінска ні мае саусім фундушау для далейшаго істнавання.

—

Узновіцца мусіць скора работа Мінскай почты і тэлеграфу, на што есьць ужо з года нямецкай улады. Астаноука толькі тэхнічная, каторая мае быць хутка усунена. Гэтым, аднак, ні рашаецца пытанне аб прыняцці на службу служыушых раней на почце і тэлеграфе чыноунікау і выплаце ім пэнсіі.

—

Прэдстаунікі „Цэнтрадому“ і часьці пачт.-тэлегр. чыноунікау учора падалі гарадскому галаве праэкт устройства у Мінску месцовай почты, каб нарыхтаваць комунікацыю у месьце. Аутары праэкту прасілі гарадскога галаву узяць усе прэдпрыемства у рукі горада. Галава дакляравау, што Управа абсудзіць і прыме праэкт калі ен ні будзя суліць страт для гораду.

—

Учора узнавілася дзеяльнасьць Мінскай Скарбовай (Казеннай) Палаты. На якіх асновах будзя ісьці праца Скарбовай Палаты у дальшым часе покуль ні ведама. Магчыма, што Скарбовая Палата будзя органам беларускаго краеваго прэдстауніцтва.

—

У апошні час прыкмечаецца паляпшэнне рублеваго курсу. Замест 1 маркі за рубель плацяць 1 м. 25—37 пфэнінгау.

—

Есьць думка каб выпусьціць месцовыя грашавыя знакі (боны). Гандлевыля, банкоускія і біржовыя дзеячы адносяцца да гэтаго спагадна. Боны маюць быць на 5—10 рублеу.

—

Р. Скірмунт гэтым заяуляець, што у польскай дэлегацыі ен ні быу, а быу як прэдстаунік беларусоу, і як такі гаварыу с германскім камандаваннем.

Рэдактар-выдавец
П. АЛЕКСЮК.

## Абвесткі.